ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# ВОЛЬНАЕ + TV ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Жыве Беларусь!

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 г.
№11(71). 2001 г. Кошт па дамове.

**Цытата першай паласы**

Когда-нибудь, впоследствии, потом,
но даже в букваре поместят строчку,
что сделанное скопом и гуртом —
расхлёбывает каждый в одиночку.

*И.Губерман*

*Творчы конкурс*

## «Я ў дваццаць першым стагоддзі»

Для таго, каб нашу газету з цікавасцю чыталі людзі розных узростаў, прафесій, палітычнай арыентацыі, веравызнанняў, патрэбна шмат аўтараў, якія б пісалі кожны пра сваё і для ўсіх. З мэтай пашырэння аўтарскай сеткі пры рэдакцыі са жніўня пачынае працаваць школа журналістыкі, дзе будуць праходзіць як тэарэтычныя, так і практычныя знанятқі, ладзіцца сустрэчы са спецыялістамі з Мінска, Віцебска, Наваполацка, Гродна. Будуць сустрэчы і абмен вопытам у рэдакцыях незалежных газет.

Вельмі да месца пытанне: «як трапіць у школу журналістыкі?»

Без праблем у школу трапяць рэгіянальныя аўтары, якія не маюць журналісцкай падрыхтоўкі, але ўжо шмат часу дапамагаюць нам цікавымі матэрыяламі. *А для ўсіх астатніх жадаючых супрацоўнічаць з намі мы аб'яўляем творчы конкурс на тэму* ***«Я ў дваццаць першым стагоддзі».*** *У дадатак напішыце крыху пра сябе: чым займаецеся, чым цікавіцеся, якія Вашы мары, кім Вы бачыце сябе ў новым стагоддзі, што б Вы хацелі змяніць у цяперашнім жыцці. Не трэба пісаць на дзесятках лістоў. Памятайце, што сцісласць -- сястра таленту. Змясціце свае думкі і разважанні ў сотні-другой радкоў і дашліце нам. Самыя лепшыя творы мы абавязкова надрукуем у «Вольным Глыбокім», а іх аўтараў запросім у школу журналістыкі, а крыху пазней і да супрацоўніцтва.*

*Акрамя зададзенай тэмы можаце дасылаць артыкулы на тэмы, якія Вас найбольш хвалююць. Можна дасылаць вершы, малюнкі, карыкатуры, графіку... Адным словам, чакаем новых ідэй і новых аўтараў.*

*Галіна Сутула*

*Адным радком*

❖ Пячатка князя Уладзіміра Манамаха знойдзена на Рурыкавым гарадзішчы пад Навагрудкам.

❖ Украіна хоча перапрафіліраваць ЧарнобыльскуюАЭС у захавальнік адпрацаванага ядзернага паліва.

❖ За адзін тыдзень ліпеня ў Беларусі ўтапіліся больш140 чалавек.

❖ У адным з лонданскіх рэстаранаў шасцёра банкіраў папалуднавалі на 44 тысячы фунтаў стэрлінгаў. Сума чаявых афіцыянтам вымяралася чатырохзначнымі лічбамі.

❖ З 1999 года ў Віцебскім УУС працуе амаль ананімны тэлефон даверу: 25-40-74. Вы можаце пазваніць, калі вас пакрыўдзіў супрацоўнік міліцыі альбо ведаеце, што рыхтуецца злачынства.



Мідлэнд, 2000г. Перад крыжам пакутнікам за Беларусь. Старшыня Рады БНР І.Сурвіла (пры крыжы) мае слова. Наш зямляк, пісьменнік К.Акула (злева), нешта шукае ў кнізе.

*Фотаздымак з Канады*

## Ну і мінімалка ў людзей!

Мінімальная пагадзінная аплата працы ў Англіі складзе 4 фунты і 10 пенсаў, а гэта прыкладна 7 долараў ЗША альбо амаль 10 тысяч нашых «зайцаў». У іншых краінах мінімальная аплата за гадзіну такая: у Аўстраліі -- 5,05 фунтаў, Францыі -- 4,57, Канадзе -- 3,93, у ЗША -- 3,71, Японіі -- 2,73, Іспаніі -- 2,09, Партугаліі 1,8 фунтаў. Калі перавесці нашу «мінімалку» за месяц у фунты, то атрымаецца лічба амаль з адных нулёў.

## Пашпарт свабоды Ю.Бандажэўскаму

Юрый Бандажэўскі, былы рэктар Гомельскага мединстытута, прафесар, які нядаўна асуджаны на 8 год пазбаўлення волі быццам бы за "взяточничество", стаў уладальнікам еўрапейскага пашпарта свабоды.

Ён стаў 25-ым чалавекам на планеце, які атрымаў гэты дакумент. Пашпарт дае права свабодна перамяшчацца па Еўропе і выбіраць у якасці месца жыхарства любую краіну. Сусветная навуковая грамадскасць патрабуе ад беларускіх улад вызваліць Ю.Бандажэўскага, бо віна яго толькі ў тым, "што ён сумленна гаворыць пра вынікі сваіх работ у вобласці радыяцыйнай медыцыны".

*М.Сямашка*

На юбілейным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» адразу пяць прадстаўнікоў Глыбоцкага раёна былі прыняты ў члены Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі. Адным з іх стаў ваенны, а па сумяшчальніцтву мастак, рэзчык па дрэву Віктар Казлоўскі.

## Нашы майстры на «Славянскім базары»

Напярэдадні фестывалю ў райцэнтры з вялікім поспехам прайшла яго першая выстава.

Ведайце нашых!

*У.Шык*

## Рыба захварэла краснухай

Звыш шасцідзесяці тон гадавалага карпа цудам пазбеглі гібелі ў рыбгасе«Навінкі», што месціцца на мяжы Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў. На трох агульных сажалках з-за рэзкага павышэння тэмпературы паветра рыба захварэла на краснуху. На шчасце, спецыялісты экстрана падлячылі карпа спецыяльным камбікормам з лекавымі дабаўкамі.

*У.Шык*

## Балкон абарваўся

У ноч з 7на 8 ліпеня ў Кобрыне двое юнакоў і пяцёра дзяўчат упалі з вышыні чацвёртага паверха разам з балконнай плітой, на якой сталі. Не прыходзячы ў сябе, на месцы памерла 29-гадовая гаспадыня кватэры. Адна з дзяўчат пераламала пазванок, у яе пачаўся параліч ніжняй часткі цела, выратаваць яе не ўдалося. У астатніх пацярпелых шмат пераломаў, але іх жыццю нічога не пагражае.

*І.Валер'еў*

*Салон-магазін «Мастацтва» ў цэнтры Глыбокага па вуліцы Маскоўскай.*



Фота Уладзіміра Скрабатуна

## Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў

Уладальнікам першай прэміі конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праходзіў у рамках X міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», а таксама 6 тысяч долараў ЗША стаў беларус Дзмітрый Качароўскі. Пры ўручэнні Дзмітрыю дыплома лаўрэата старшыня журы Ала Пугачова адзначала, што ён «добры выканаўца», але яна б «папрацавала над іміджам».

Гран-пры фестывалю і 10 тысяч долараў ЗША была ўдастоена выканаўца з Расіі Цэона Дрольнікава.

*М.Пятрова.*

## У Віцебску адкрылася шакаладная фабрыка

У дні "Славянскага базару" ў Віцебску адкрылася новая шакладная фабрыка "Вітэла". Яна спецыялізуецца на вытворчасці шакаладу, сухіх кандытарскіх смесяў і глазуры, што выкарыстоўваюцца пры вытворчасці марожанага.

Уладальнік фабрыкі – нямецкі канцэрн "Швартау", які інвеставаў у стварэнне новай вытворчасці каля 6,5 мільярдаў долараў ЗША.

*В.Палонская*

## Здарэнне на «Славянскім базары»

У начы з 21 на 22 ліпеня ў Віцебску пасля чарговага канцэрта «Славянскага базару» загінула дзяўчына. Ёй быў 21 год, звалі Алесяй. Было гэта так: дзве групы маладых людзей бліз Летняга амфітэатра счапіліся ў бойцы. Пад руку аднаго з дзецюкоў і трапіла Алеся. Удар бутэлькай прыйшоўся па галаве дзяўчыны. Алеся памерла ў бальніцы. Той, хто ўдарыў яе, яшчэ не затрыманы.

*М.Чарвінскі*

Радкі з канвертаў

## Не вучыце мяне кіраваць кабылай

Неяк аднойчы я пачуў выступленне нашага кіраўніка, дзе ён не ведаў што будзе: калі разагнаць калгасы, то чым жа будуць кіраваць чыноўнікі-ўпраўленцы? З гэтай нагоды хачу сказаць: талковы мужык перш за ўсё будзе кіраваць сваёй бабай, затым уласнай гаспадаркай, а навошта яшчэ што? У мяне свая кабыла. Я ёй і кірую. Худа-бедна апрацоўваю 50 сотак, кармлю сям`ю. Жонка мая мяне ва ўсім слухае, бо хоць я і выпіваю часам, але ж працую,як вол: дзе кабыла не цягне, сам раблю. Што за бяда ў чыноўнікаў? Усе ж яны, пэўна, інстытуты, коледжы паканчалі, маюць дыпломы. Ідзіце і працуйце на сябе, на свае сем`і і ўсё ў краіне наладзіцца. Мяне не трэба вучыць як кіраваць кабылай. Суседа Лявона не трэба вучыць, як араць. Марылю паштальёнку не трэба вучыць, як газеты разносіць, а учыцельку з суседняй вёскі , як дзяцей вучыць. Кіруйце так, каб вы ўсе, спадарычыноўнікі, нам жыць не заміналі і на хлеб зарабляць.

*З павагай І. Шышкоў*

## Пусцеюць кішэні пакупнікоў

Прадаўцы ўнівермага ў Докшыцах добра ведаюць, калі на прадпрыемствах даюць заробак, бо ў такія дні некалькі ажывае гандаль. У астатнія дні ў аддзелах і секцыях пуста. Продаж адзення, бялізны, абутку зменшыўся ў тры разы. Таксяк купляюцца гаспадарчыя тавары -- фарбы, шпалеры. Затое на тэлевізары, халадзільнікі, веласіпеды і матацыклы попыту няма: цэны на тавары вялікія, а заробкі ў людзей куцыя. Рэзка знізіўся попыт і на харчовыя прадукты: хлеб, мяса, торты. І толькі алкагольныя напоі па-ранейшаму самы хадавы тавар.

*У. Шык.*

## Загінулі ў катле з віном

Па папярэдняй версіі слесар залез у чан, дзе знаходзілася 400 літраў чорнай смародзіны, каб прачысціць трубу. Праз некалькі хвілін ён страціў прытомнасць і зваліўся ў ёмістасць. Грузчык кінуўся яму на дапамогу, але пад уздзеяннем вуглякіслага газу, таксама страціў прытомнасць. Тое ж здарылася і з двума рабочымі, якія хацелі дапамагчы таварышам. Усе чацвёра загінулі.

*І. Шанцова.*

## Шарэцкі зараз у Амерыцы

Спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі, які да нядаўняга часу жыў у Літве, пераехаў у ЗША. Да гэтага ў Амерыку пераехаў яго сын.

Старшыня сейма Літвы В. Ландсбергіс пасадзейнічаў таму, каб С. Шарэцкаму былі створаны добрыя ўмовы жыцця. Спікер атрымаў грашовую дапамогу і ўрадавую ахову.

*Служба навін.*

«Гарачая» тэма




## Міхаіл Марыніч ідзе ў адстаўку

Міхаіл Марыніч, адзін з прэтэндэнтаў на прэзідэнцкі пост, здымае з сябе абавязкі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі і па сумяшчальніцтву ў Эстоніі і Фінляндыі. Па дадзеных ЦВК для вылучэння М. Марыніча кандыдатам у прэзідэнты не хапіла чатырох тысяч подпісаў пры неабходных ста тысячах. Сам М. Марыніч сцвярджае, што ў ЦВК перададзена 110 тысяч подпісаў. «Нягледзячы на жорсткі ўціск, -- сказаў М. Марыніч, -- я працягну актыўную палітычную дзейнасць дзеля дэмакратычных змен Беларусі».

*Ю.Пацёмкін, БелаПАН*

## Грамадскасць патрабуе праверыць факты

Група палітычных і грамадскіх дзеячаў Беларусі выступіла са зваротам да беларускага народу і сусветнай грамадскасці, у якім патрабуе стварыць незалежны орган па праверцы магчымага дачынення некаторых чыноўнікаў да знікнення вядомых у краіне людзей. Як вядома, да цяперашняга не знойдзены былы міністр унутраных спраў Ю. Захаранка, прадпрымальнік А. Красоўскі, палітык В.Ганчар, тэлеаператар Д. Завадскі.

Пад зваротам падпісаліся 55 чалавек.

*Н.Кулагіна, БелаПАН*

*Жыццё паўсядзённае*

## Пенсіянеры пайшлі ў лясы

Жабрацкая пенсія прымушае жанчын і мужчын займацца падсобным промыслам, які прыносіць лішні рубель. Лета, нягледзячы на спякоту, камароў, дарожныя праблемы, гоніць пенсіянераў у лясы і на азёры. Многія збіраюць ягады не для сябе, а на продаж. На «подступах» да Мінска цягнуцца ланцугі ягаднікаў, якія гандлююць грыбамі, чарніцамі, малінамі ля шашы. Транспарту тут хапае, тавар расходзіцца і за места плаціць не трэба.

Многія з раніцы акупіруюць вадаёмы, вудзяць рыбу. Часта таксама не для сябе, а на продаж. Я разумею, што для змены роду дзейнасці, дзеля адпачынку можна пасядзець і з вудай, можна і па лесе паблукаць. Але калі кожны дзень пачынаць з плана: назбіраць пару вядзёр ягад, прадаць іх, ізноў назбіраць, то лес становіцца месцам часовай працы. Як добра, што ён ёсць. Хоць дапаможа лішнюю капейку зарабіць

Толькі-толькі пралупіць вочы золак, а жанчыны пажылога ўзросту, абуўшыся ў красоўкі і апрануўшы «уніформу», па дзве-тры, з рукзакамі за спіной, з вёдрамі ў руках спяшаюцца на аўтастанцыю. Рабочы дзень для пенсіянераў пачынаецца?

*Т.Міхалевіч.*

*Крымінал*

## Вось дык пакаталіся!

Надоўга запомняць свае прыгоды двое непаўналетніх падлеткаў з Мёр. Выпілі бутэльку самагонкі і каля пад`езда ўбачылі «Масквіч». Разбілі акно, завялі машыну і паехалі ў цэнтр горада, дзе легкавушка заглохла. Дамоў вярталіся пехатой, а назаўтра вымушаны былі адказваць на непрыемныя пытанні следчага. Абое хлопцаў пакараны. Адзін з іх, вучань 9 класа, накіраваны ў папраўчую калонію. Яго равесніку прысудзілі год папраўчых работ з утрыманнем 10% заробку ў прыбытак дзяржавы.

*У.Шык*

## Выдавецкі рух на Пастаўшчыне

У рамках праекта па захаванню культурнага і гістарычнага наследдзя Паазер`я выдавецкі цэнтр «Сумежжа» ў Паставах пачаў выпускаць ілюстраваны краязнаўчы часопіс «Нашы карані». Усё пачалося паўтары гады назад з выдання тэматычнага дадатку «Краязнаўцы Паазер`я» да газеты «Крэсы». Матэрыялаў аб мінулым сабралася шмат, таму вырашылі аб`яднаць іх на старонках часопіса.

Першы нумар цалкам прысвечаны даследванню жыцця Пастаўшчыны першай паловы мінулага стагоддзя. Пакуль часопіс будзе выходзіць адзін раз у квартал тыражом 150 экземпляраў. Дарэчы, пасля шасцігадовага перапынку ў Паставах выйшаў літаратурна-мастацкі альманах паэтаў і празаікаў «Рунь».

*У.Шык*

*Дарожныя нататкі*

# Цяпер я ведаю, як адчувае сябе кілька ў бляшанцы

Мне ўжо даводзілася пісаць дарожныя нататкі. «Вольнае Глыбокае» змяшчала матэрыял, у якім я расказвала пра галодных бягомльскіх дзяцей, якія «зарабляюць» тым, што збіраюць і здаюць пустыя бутэлькі і просяць грошы ў пасажыраў транзітных рэйсаў. Я пісала пра «шырокі» асартымент сталоўкі, якая працавала на Бягомльскай аўтастанцыі, дзе быў адзін стакан на ўсіх. Прайшоў нейкі час, месяцы два-тры, становішча крыху палепшылася. У былой сталоўцы зрабілі рамонт, там пасвятлела, папрыгажэла, пачысцела, стаканаў пабольела. І хоць установа ад санаторыя, асартымент пашырыўся не надта. Сама была сведкай, калі ў 4 гадзіны дня галодныя пасажыры з мёрскага аўтобуса спрабавалі купіць перакусіць, але акрамя меню для выгляду і булачак з ліманадам нічога не было. Апельсіны ляжалі па астранамічнай цане -- па 3 780 рублёў за кілаграм. Напэўна, іх даставілі ў Бягомль з Луны, таму такі кошт... І ўсё ж, і ўсё ж. Не бачна дзетак, якія папрашайнічаюць. Можа занялісяя ягадным бізнесам, а можа, так хочацца верыць, наладзілася ў іх жыццё і на хлеб зарабляюць бацькі...

Сёння хачу напісаць пра іншую праблему, якая не знаходзіць вырашэння. Лета -- час водпускаў, канікулаў, час паступленняў, турыстычных паездак. Ва ўсіх цывілізаваных краінах аўтатранспартнікі пераходзяць на новы расклад руху: альбо рэйсы ўшчыльняюцца альбо адкрываюцца новыя рэйсы. А як жа інакш? Людзі едуць, а значыць, ім за іхнія грошы дзяржава павінна забяспечыць камфортныя ўмовы праезду. Але не тут было. Паездкі ў нашых міжгародных аўтобусах пераконваюць у тым, на якіх задворках цывілізацыі мы знаходзімся. Запыт ёсць -- прапаноў няма. Пасажыры прапануюць грошы, а дзяржава ім у адказ кукіш. Калі не яго, то калі ласка -- душыцеся за свае кроўныя стаяка па 5-8 гадзін, так і быць, выручым вас. Вось гэта сервіс!

У аўторак, у пачатку тыдня, раніцой я хацела купіць білет на Глыбокае. Ні сідзячага, ні стаячага, ні ляжачага не было. Ніводнага. Натоўп такіх жа, «шчаслівых» як і я, прасіўся ў вадзіцеля. Дзякуй яму, узяў усіх. У аўтобусе стаячых было больш чым сідзячых. На вуліцы -- 35, у салоне і таго больш. Ні павярнуцца, ні ўздыхнуць. Я была амаль апошняй. На раскладзеным крэсле ў самым праходзе сеў малады мужчына. Я -- побач, за мной -- сцяна людзей. Каб я не вісела над ім, ён зміласціўся і прапанаваў мне сваё калена. Праўду кажуць: лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці. Паўдарогі я сядзела ў мужчыны то на адным, то на другім калене. Гэтае «крэсла» выратавала мяне ад сардэчных прыступаў, бо стоячы не вытрымала б. Пасля Плешчаніц крэсла заняў другі мужчына. Астатак дарогі я праехала на яго каленях. Дзякуючы нашай роднай уладзе я, маці двух дзяцей, замужняя жанчына, каб вярнуцца ў сям`ю жывой, вымушана была прыстасоўвацца да сітуацыі, прымаць любыя прапановы, мяняць мужчынскія калені, толькі б дабрацца дадому. Дзякуючы «клопату» дзяржавы пра ўсіх нас і пра мяне ў прыватнасці, я-такі прыйшла да высновы, што яшчэ маю поспех у мужчын, калі тыя прапаноўваюць свае калені ў якасці крэсла... Гэта жарт.

Добра было б пасмяяцца, каб не было так сумна. Чалавек, зарабіўшы потам і мазалём грошы, павінен прыніжацца, прасіцца ў вадзіцеля, у кантралёра, чакаць міласці ад сабрата-пасажыра, мучацца столькі гадзін у дарозе! І ўсё гэта ўвайшло ў норму. Мы рады і гэтаму. Мы верым адміністратару, што ўсё зроблена для нашай зручнасці. Усё -- гэта перапоўненыя аўтобусы, знерваваныя людзі, няспраўныя аўтобусы. Сама бачыла, як з аўтавакзала ў Мінску клас, што сабраўся на адпачынак, піхаў аўтобус. Дык яшчэ можа ў кошт білета ўваходзіць і піханне транспартных сродкаў да месца прызначэння?

Па сваёй рабоце я часта бываю ў сталіцы і за сем апошніх год ні разу без нерваў у Глыбокае не прыехала. І што цікава: за гэтыя сем год я не бачыла ў аўтобусе ніводнага чыноўніка, міністра ці прадстаўніка міністэрства транспарту, дэпутатаў нашых, якія перад выбарамі шмат абяцаюць. Я запрашаю іх усіх у міжгародні грамадскі транспарт, на любы рэйс у бок Глыбокага (хоць перакана, што не лепш і з іншымі накірункамі). Пакуль будзем ехаць стоячы, альбо вы седзячы, а я побач, стоячы я ў вас, як журналіст, вазьму інтэрв`ю. Мы пагаворым аб клопаце ўрада пра народ, аб перспектывах да лепшага «райскага» жыцця для простых смяротных, аб вашых асабістых планах на будучае. Хоць пра апошні ваш план на будучае я б адразу здагадалася: хутчэй перасесці ў асабісты «Мерс» ці «Волгу», далей ад гэтага расчырванелага, потнага люду, які трэцца адзін аб аднаго і адчувае сябе як кілька ў таматным соусе ў вузкай пляскатай бляшанцы.

Вынік з усяго сказанага адзін: перамены да лепшага на талерачцы нам ніхто не паднясе. Калі перамен да лепшага не відаць, мы не павінны іх чакаць. Мы павінны іх набліжаць. Час выбіраць годнае жыццё.

*Г.Сутула*

*Мінск-Бягомль-Глыбокае*

# Сямён Домаш: пабудуем разам Дом Наш

### *Інтэрв`ю з палітыкам з рэгіёна*


Сямён Домаш

***Нядаўна карэспандэнт сустрэўся з палітыкам з рэгіёна Сямёнам Домашам, які ўваходзіць у лік кандыдатаў на пост прэзідэнта. Зацікаўленую размову двух беларусаў мы і прадстаўляем Вашай увазе.***

***Кар:*** *Сямён Мікалаевіч, сёння наша краіна знаходзіцца напярэдадні выбараў новага прэзідэнта РБ. Больш дваццаці кандыдатаў прэтэндавалі на гэты пост. Якімі якасцямі, на Ваш погляд, абавязкова павінен валодаць новы кіраўнік краіны?*

***С. М.:*** Па-першае, ён павінен быць ураўнаважаным, сур`ёзным, адказным чалавекам. Па-другое, ён павінен прайсці асноўныя ступені кіраўнічай лесвіцы. Толькі тады ён набудзе неабходны вопыт і з`явяцца нейкія гарантыі, што не наробіць непапраўных памылак. У прэзідэнта нічога не атрымаецца, калі ён сядзе не ў свае сані.

***Кар:*** *А ці ёсць вопыт дзяржаўнага кіравання ў Вас?*

***С. М.:*** Думаю, дастатковы. У 24 гады быў дырэктарам аўтабазы, у 27 узначаліў Гродненскі аўтакамбінат. Быў старшынёй выканкама ў Лідзе і Гродна. Багаты вопыт дало кіраўніцтва Гродненскай вобласцю -- у 1993-1994гг. быў старшынёй аблвыканкама, а ў 1993-1996гг. старшынёй абласнога Савета народных дэпутатаў. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-ага і 13-ага скліканняў, быў членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Маю два дыпломы: эканаміста і механіка па рамонту аўтамабіляў. Да таго ж, 51 год -- гэта аптымальны ўзрост для палітыка, час, калі ён знаходзіцца ў росквіце сваіх магчымасцяў, інтэлектуальных і фізічных.

***Кар:*** *А што сёння самае характэрнае для беларускай палітыкі?*

***С. М.:*** Прыйшоў час новай палітыкі, новых падыходаў, новых лідэраў. У 90-ыя гады ў грамадскім жыцці Беларусі пераважалі крайні радыкалізм і палітычная няўстойлівасць. Цяперашні кіраўнік і Пазняк на першы погляд два палітычныя антыподы. На самой справе яны -- браты-блізняты. Сутнасць іхняй палітычнай філасофіі -- пастаянная і непрымірымая барацьба з выдуманымі ворагамі, унутранымі і знешнімі. Толькі Пазняк лічыць ворагам Ўсход, а Лукашэнка -- Захад. Па сваёй прыродзе абое разбуральнікі, рэвалюцыянеры, але іх час мінуў. Час патрабуе намаганняў прафесійных гаспадароў і ўпраўленцаў. Час наладжваць годнае жыццё. Прыйшоў час ствараць. Для гэтага трэба перадолець раскол грамадства. Хопіць дзяліць людзей на сяброў і ворагаў, сваіх і чужых. Мы ўсе, нягледзечы на нашы палітычныя перакананні, узрост, нацыянальнасць, рэлігійную прыналежнасць, моўныя перавагі, дзеці гэтай зямлі, грамадзяне гэтай цудоўнай краіны. Яе хопіць на ўсіх. Давайце разам пабудуем Дом Наш -- Беларусь, у якім усім жыхарам знойдзецца годнае месца.

***Кар.:*** *Часам здаецца, што краіна зайшла ў глухі тупік. Ці бачыце Вы шляхі выхаду да святла?*

***С. М.:*** У мяне ёсць надзейная праграма вывада Беларусі з крызісу, падрыхтаваная лепшымі спецыялістамі-эканамістамі. У ёй падрабязна, па месяцах, расписана што трэба рабіць. За аснову ўзяты вопыт Польшчы і іншых суседніх краін, якія пачыналі з аднолькавага з намі ўзроўню жыцця, але за апошнія гады паспяхова правялі рэформы і дасягнулі заробкаў у сярэднім 500 даляраў у месяц. Я не буду ўступаць у завочнае спаборніцтва наконт абяцанняў аб памерах сярэдняга заробка. Хочу толькі зазначыць, што пастаўленая цяперашнімі ўладамі мэта праз пяць год даць 250 долараў зарплаты пры граматнай эканамічнай палітыцы можа быць дасягнута ўжо ў наступным годзе.

Трэба ліквідаваць усе перашкоды, якія не даюць развівацца прадпрымальніцтву. У першую чаргу -- увесці замоўны прынцып для адкрыцця ўласнай справы, стварэння юрыдычнай базы. Калі, да прыкладу, чалавек хоча дома рамантаваць абутак, ён не павінен абіваць парогі чыноўніцкіх кабінетаў і прасіць дазволу. Трэба скараціць колькасць падаткаў прыкладна ў тры разы, а памер падаткаў -- у два разы. Вопыт Расіі паказаў, што скарачэнне памераў падаткаў вядзе да росту падатковых паступленняў, трэба стварыць умовы, пры якіх бы беларускія прадпрыемствы і прадпрымальнікі не вывозілі грошы за мяжу, а ўкладалі іх у нашу эканоміку. Тады прыйдуць і замежныя інвестыцыі.

Трэба зняць забарон на вываз тавараў за межы Беларусі. Трэба скараціць дзяржаўныя расходы за кошт скарачэння ўпраўленчага апарата (у першую чаргу ліквідаваць ідэалагічную вертыкаль), шматлікай прэзідэнцкай аховы, адмовы ад непатрэбных парадаў, «дажынак» і г. д. Трэба адмяніць усе забароны, якія перашкаджаюць людзям зарабляць грошы для сябе і сваіх родных.

***Кар.:*** *Ёсць думка, што перад выбарамі шмат абяцаюць, расхвальваюць сябе, але калі прыходзяць да ўлады, то пачынаюць красці і злоўжываць сваёй пасадай. Што скажаце на гэты конт?*

***С. М.:*** На жаль, гэта праўда. Крадзяжы і беспакаранасць чыноўнікаў існуюць толькі ў сістэме дзяржаўнага беззаконня. Калі кіраўнік сам сабе законатворца, выканаўца і суддзя, то хто яго можа паставіць на месца? Я прапаную іншы падыход у рашэнні гэтай праблемы. Трэба ствараць такую сістэму дзяржкіравання, пры якой бы было складана красці. Гэта раздзяленне закона выканаўчай і судовай улад. Гэта свабода словадаўчай адпаведнасці з канстытуцыйнымі прынцыпамі і незалежнасць сродкаў масавай інфармацыі ад дзяржаўных чыноўнікаў. Гэта скарачэнне колькасці забаронаў у эканамічнай сферы, якія правакуюць хабарніцтва. Гэта рэалізацыя ўсіх грамадзянскіх правоў і свабод.

Трэба рэфармаваць сістэму ўлады. Зрабіць празрыстымі і дэмакратычнымі выбары. Не трэба вынаходзіць веласіпед. Усё, што нам трэба для вырашэння праблем, ужо ёсць у сусветным вопыце.

***Кар.:*** *У нашым грамадстве ёсць яшчэ адно праклянце -- масавае п`янства. Народ співаецца. Як вырашыць гэту праблему?*

***С. М.:*** Нядаўна мне расказалі пра таленавітага чалавека, які рэгулярна напіваўся да ачмурэння. Яго цешча, мудрая жанчына, падарыла яму «Запарожац». А чалавек марыў пра аўтамабіль. І калі мара збылася, ён кінуў піць.

П`янства сігналізуе аб тым, што ў грамадстве не ўсё добра. Калі чалавек не мае магчымасці рэалізаваць свой талент, задаткі, калі ў яго няма ніякай светлай жыццёвай перспектывы, калі ён прыніжаны беспрацоўем альбо жабрацкім заробкам, калі не ў сілах забяспечыць сям`ю, калі апынуўся ў коле безвыходнасці, разгубленасці і страху, тады ён заглушае праблемы гарэлкай. Добры гаспадар, клапатлівы сем`янін, забяспечаны чалавек ніколі не стане алкаголікам. Алкаголікамі становяцца часцей за ўсё беспрацоўныя, бяздомныя, адзінокія людзі. І такіх вельмі шмат сёння.

***Кар.:*** *Заняткі спортам з нядаўняга часу ў палітыкаў сталі моднымі. Які від спорту выбралі Вы?*

***С. М.:*** Займацца спортам трэба не для моды і паказухі, а для ўласнага здароўя. Я займаюся многімі відамі спорту: бегам, каратэ, гульнёвымі. Зараз займаюся атлетычнай гімнастыкай. Найбольшыя поспехі ў мяне былі ў боксе, дзе дасягнуў узросту кандыдата ў майстры спорту.

***Кар.:*** *Сямён Мікалаевіч, заўсёды будзьце ў добрай форме: і ў спартыўнай, і ў псіхалагічнай, і ў палітычнай. Дабрабыту Вам у сям`ю і поспехаў ва ўсіх справах, якія Вы робіце дзеля росквіту роднай Беларусі.*

# Зачынена карцінная галерэя ў Германавічах

***Як нечаканая сустрэча, аж да недаверу,***
***У вёсцы – карцінная галерэя мастакоў!***
***Убачыла, як толькі адчыніла дзверы,***
***Карціны беларусаў-землякоў.***
***У вёсках нашых, найчасцей забіты клуб***
***Адчыненыя крамы, дзе гарэлкай пазастаўлены паліцы.***
***А тут карціны… харасства чароўны кут,***
***Ну як было тут, вы скажаце, не здзівіцца?***
***І родныя мясціны, што калі,***
***Драздовічу калыскаю былі,***
***Ад пунькі згорбленай, да космасу вышынь***
***Праз нашы душы і праз сэрцы перайшлі.***
***І тут я зразумела, што ў кожнага***
***Свой Эрмітаж, найдаражэйшы ў свеце.***
***Ён там, дзе чалавек народжаны,***
***Дзе галерэю мастакоў убачаць дзеці.***

Я не паэтка, але такі вось хай і нязграбны, верш склаўся сам, калі я ўпершыню наведала мастацкую карцінную галерэю ў вёсцы Германавічы гады два таму назад. Стваральніца цэнтра імя Язэпа Драздовіча Ада Эльеўна Райчонак праводзіла экскурсію з групай моладзі.

Колькі імён вядомых беларускіх мастакоў прадстаўляла выстава! Свае творы для галерэі падарылі Алесь Марачкін, Мікола Купава, Уладзімір Сулкоўскі, Алесь Родзін, Валерый Шчасны, Юрась Піскун, Алесь Цыркуноў, Лявон Раманоўскі, Уладзімір Васюк, Міхась Ляўковіч, Віктар Маркавец, Алесь Шыёнак, Віктар Спашчанюк, Зміцер Мшар, Яўген Кулік, Міхась Цыбульскі, Андрусь Піскун, Ізаітка Анатоль, мастак з Амерыкі Серж Харытон, мастакі-шаркаўчане Арсен Пяткевіч, Уладзімір Маяк, Віктар Крук.

Тады я падумала: вёска будзе жыць пакуль ёсць энтузіясты, такія як А.Э.Райчонак, якая ўсё сваё жыццё прысвяціла стварэнню культурна-асветніцкага цэнтра ў Германавічах.

Але... Адзіную ў Беларусі вясковую мастацкую карцінную галерэю зачынілі, адабраўшы памяшканне. Карціны А.Э.Райчонак зберагае ў сваёй хаце. А памяшканне забралі на патрэбы гандлю. У Германавічах з`явіцца яшчэ адна "точка" з застаўленымі гарэлкай паліцамі: магчыма, на думку ўлад, менавіта гэта патрэбна вёсцы, а не карцінная галерэя.

У экспазіцыі выставы мяне ўразіла карціна мінскай мастачкі Галіны Горавай "На памыйніцы". Сюжэт карціны – абвінавачванне нашаму часу і парадкам, перасцярога-заклік: "Так не павінна быць!".

... На памыйніцы немаладыя ўжо людзі. Яны вышукваюць штосьці патрэбнае… Нехта -- ежу, нехта -- пустыя бутэлькі, хтосьці -- старамодная адзенне... Такія шапкі насілі прафесары Паліто такога пакрою насіла інтэлігенцыя, а зараз яны на памыйніцы – такі змест карціны, так зразумела яго я.

Мо таму так бяздумна зачынілі і галерэю ў вёсцы Германавічы? Калі людзей можна вымусіць ісці на памыйніцу, то туды ж можна адправіць і мастацтва, якое ствараецца для гэтых людзей. Жахлівая паўсядзённасць…

***Сафія Табола,*** *ліпень 2001г.*

*Фотаздымкі Васіля Саланінкі*



**Глыбокае, 3 ліпеня 2001 года.** На былым глыбоцкім аэрадроме праводзіліся спартыўныя гульні-спаборніцтвы, у якіх з задавальненнем удзельнічалі жыхары горада і госці. Пераможцы атрымалі жывыя падарункі -- свінню і курыцу.



Гумар

## Правінцыйны «сервіс»

Непадалёк размешчаны раённы цэнтр Смалявічы ад сталіцы, а ўсё-такі па духу, па ўнутранай культуры насельніцтва гэта правінцыя. Народ тут спакойны, пакладзісты, словам, з іміджам усё быццам бы ў парадку. А вось ляпне языком якая цётка такое, што хоць стаі, хоць валіся...

Неяк вечарам я быў у мясцовым рэстаране «Колас». Увайшоў маладзенькі лейтэнант і папрасіў прынесці яму выпіць і што-небудзь закусіць. Афіцыянтка прапанавала салдату зваранaя яйкі. Калі заказ прынеслі, афіцэр выклікаў загадчыцу ўстановы.

-- Почему яйца грязные? -- грозна запытаў ён.

-- Сапраўды, -- прамямліла загадчыца і тут жа моцна, на ўвесь рэстаран, дала каманду афіцыянтцы:

-- Лена, лети сюда. Быстренько помой лейтенанту яйца!

Збянтэжаны, пачырванелы вяака хуценька пакінуў залу.

-- Вось дык сервіс! -- зауважыў нехта з прысутных і засмяяўся.

*С.Букаціч, г. Смалявічы*

Навіны адукацыі

## Студэнтаў стане больш?

Сярэдні конкурс паступаючых у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі склаў у гэтым годзе 3,4 чалавекі на месца – рэкордную лічбу за апошнія дзесяць гадоў.

Найвышэйшая колькасць пададзеных заяў на адно месца (5,2) была зафіксавана ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Самы маленькі конкурс сярод ВНУ краіны быў у гэтым годзе ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце – 1,2 чалавекі на месца.

*А.Снітко*

## Цырк з Прагі ў Глыбокім

З 17 па 19 ліпеня ў Глыбокім выступалі артысты цырка з Прагі, а дакладней кажучы - - сямейная дынастыя, якая заснавала сваю справу. У Чэхіі прыватны бізнес развіты не так як у Беларусі, там і цырк можа быць прыватным. Білеты каштавалі па дзве тысячы для дзяцей і на тысячу больш для дарослых. Выступленне пачыналася ў 19.00 і павінна было працягвацца 100 хвілін. Для жадаючых за грошы была магчымасць пакатацца на поні, купіць салодкую вату, пакатацца на каруселях, сфатаграфавацца з артыстамі. Трэба сказаць, што праграма, разлічаная на сто хвілін, працягвалася нашмат больш -- амаль дзве гадзіны. Перад пачаткам праграмы ўсім раздалі бясплатныя прысмакі. Не сціхала, гучала музыка, рытмічная, вясёлая. Бясконца чуліся апладысменты гледачоў і іх воклічы задавальнення. Артысты не проста паказвалі праграму, яны вялі актыўны дыялог з гледачамі, рабілі гледачоў удзельнікамі цыркавога шоу, ад чаго апошнія былі ў захапленні. Як сказаў 10-гадовы сын, цыркачы на дзве тысячы паказалі аж занадта. Сапраўды, госці адпрацавалі грошы па поўнай праграме. Перыферыйным гледачам, асабліва дзеткам, якія не спешчаны ўвагай заезджых артыстаў, цырк спадабаўся. Яны з нецярпеннем будуць чакаць любімых артыстаў, якія абяцалі на развітанне прыехаць у Глыбокае яшчэ раз з новай праграмай.

*С.Мархотка*

Там і тут

## Іспанская пенсіянерка -- паненка, а беларуская -- здабытчыца «жрачкі»

Пляж. Сонейка. Ласкавае мора. Купка вясёлых іспанскіх кабет праядае сваю пенсію. Цешацца, жартуюць, у вадзе плёхаюцца, пра нешта сваё гаворку вядуць.

-- Пра што іх клопат? -- звярталюся да дачкі (яна разумее па-іспанску).

-- Адна з бабуль пазнаёмілася з кавалерамі і раіцца з сяброўкамі, якую сукенку ў краме набыць, каб на спатканне бегчы.

І прыгадаліся свае, гаротныя беларускія цёткі з цяжкімі торбамі. Носяцца, як угарэлыя па крамах і рынках.

*Вячаслаў Дубінка*

Раім прачытаць

## Беларуская гісторыя ў асобах і лёсах

Тое, што мы, беларусы, дрэнна ведаем сваю гісторыю, з большага, не наша віна. Імперыі не схільны зберагаць гісторыю асобных народаў, якія ўваходзяць у іх склад. Не ў інтарэсах імперскіх палітыкаў выхоўваць нацыянальную самасвядомасць. Апошнія два стагоддзі беларусаў пераконвалі, што яны малодшыя браты і што гісторыя беларускага і рускага народаў была заўсёды агульнай. Але зберагліся рукапісы, а значыць, і дакументальныя факты. Дзесяць стагоддзяў ужо існуе наша дзяржава. Была яна магутнай і незалежнай. Была ў палоне, і ў горы, але заўсёды была, і вельмі хочацца спадзявацца заўсёды будзе. Будзе таму, што бясследна знікнуць, як напрыклад зніклі скіфы, мы не можам, не павінны. Веданне сваёй шматвекавой гісторыі адна з умоў гэтага.

Таму шаноўныя чытачы абавязкова пачытайце кнігу І.А.Масленіцынай *"Кавалеры і дамы белорусского ренесанса"*. На яе старонках трыццаць навелаў аб каханні беларускіх рыцараў і паненак. Усе яны напісаны аўтарамі на падставе рукапісаў Вялікага Княства Літоўскага XV – XVII стагоддзяў. 30 трапяткіх, пяшчотных, захапляльных расповедаў аб нашых знакамітых продках, і кожны па-свойму цікавы, непаўторны, як і лёсы герояў навел. Вы даведаецеся шмат цікавых фактаў, пазнаёміцеся з гістарычнымі асобамі, якіх, на жаль, у падручніках гісторыі не ўспамінаюць. Слаўныя рыцары жылі на Беларусі. Кахалі, ненавідзелі, помсцілі, абаранялі свой гонар, памыляліся і пакутвалі...

Анастасія Аляльковіч – княгіня Слуцкая. Застаўшыся ўдавой, яна мужна абараняла свой горад. Пры яе княжанні ні аднаму ворагу не ўдалося ўзяць Слуцк, хоць паланіць горад імкнуліся і хан Баты-Гірэй, і Міхаіл Глінскі, які спачатку пасватаўся да прыгажуні-княгіні, а пасля, калі атрымаў адказ, напаў на Слуцк.

Альбо Януш Радзівіл... Малады прыгажун, слаўны рыцар, адзін з самых вядомых і заможных магнатаў ВКЛ і рамантычна закаханы ў сваячніцу свайго брата – усё ў адной асобе.

І яшчэ шэраг імёнаў і цікавых лёсаў. Аляксандр Ягелон і Алена Іванаўна, дачка маскоўскага цара Івана.

Іх каханне каштавала Вялікаму Княству Літоўскаму дзвюх войнаў, яно стала іх асабістай трагедыяй і трагедыяй народаў ВКЛ.

Граф Альберт Гаштольт – сімвалам яго кахання і сямейнага шчасця сталі каралі, якія былі прычынай апалы сям'і, яго нявесты Соф'і Вярэйскай...

Не буду пераказваць змест кнігі, раю прачытаць яе і вам адкрыецца новая грань беларускай гісторыі. Тут, на нашай зямлі, жылі і любілі цікавыя асобы, жыццё якіх і нарадзіла ў народзе легенды пра чорную даму Нясвіжа, пра гераізм і любоў да сваёй Радзімы і мужнасць, з якой нашы продкі абаранялі яе.

*С.Табола*



## Анекдоты на закусь

*Хочаш доўга жыць – умей смяяцца.*

Ельцын прыехаў у калгас, жартуе з калгаснікамі:

-- Як жывяце, таварышы?

-- Добра жывём, -- жартуюць у адказ калгаснікі.

***

У хату да адзінокай бабулькі заходзіць немец з рэчавым мяшком на плячы.

-- Хлеб, яйкі, млека ёсць? -- пытае.

-- Няма. Ніхт. Вот як вы ў 41-ым усё забралі, так з таго часу і нічога няма.

-- Тады атрымай пасылку!

***

Пытанне армянскаму радыё:

-- Што можна зняць з голай жанчыны?

Адказ: «Голага мужчыну».

***

Людзі падзяляюцца на белых і чырвоных. Чорныя -- гэта тыя, што ездзяць на чорных «Волгах», апранаюцца ў чорныя касцюмы, адпачываюць на Чорным моры, ядуць чорную ікру. Чырвоныя -- гэта тыя, што ходзяць па Чырвонай плошчы з чырвоным сцягам, з чырвоным носам і з бутэлькай чырвонага ў кішэні.

***

Чалавек ідзе па могільніку і бачыць шыкоўнае пахаванне: аркестр, вянкі... Ён пытае бабульку:

-- Не ведаеце ад чаго ён памёр.

-- А ты па лентах вянкоў здагадайся. Пачытай, там напісана ад чаго.

-- « Ад мясцкома», «Ад парткома», «Ад групы таварышаў», «Ад жонкі і сына»...

***

Чукчу кажуць:

-- А ты хоць ведаеш, што твая жонка гуляе?

-- Ну і няхай сабе гуляе. Яна цёпла апранута, -- усміхаецца чукча.

***

Вовачку ад дзядулі з-за мяжы прыходзіць пісьмо, у якім ён піша, што аслеп і хоча, каб унук дагледаў яго, а за гэта ён адпіша яму ўсе свае зберажэнні.

Класны кіраўнік прачытала гэта пісьмо і кажа:

-- Вовачка, а давай мы ўсім класам будзем даглядаць тваёго дзядулю, а грошы аддадзём школе.

Вовачка адказвае:

-- Мар`я Іванаўна, дзядуля ясна напісаў, што аслеп, а не звар`яцеў.

***

Хлопчык заходзіць у кнігарню:

-- Цёця, дайце мне кнігу «Спартак-чэмпіён».

-- Ты што, хлапчук? Фантастыка на другім паверсе.




Незалежная рэгіянальная Вольнае Глыбокае газета

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА); тэл/факс 2 41 50.
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць штотыднёва.
Аб`ём – 1 друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 7 жніўня 2001 г. у 9$^{00}$

Наклад 1000 паасобнікаў

Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 5062